ПАСЬЛЯ КАНФІСКАТЫ.

Год III. Верасень № 9 (32)

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.







ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 9.



*Просім пашыраць «Шлях Моладзі» і прысылаць падпіску (грошы)!*


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Жнівень 1931 г. | № 9 (32). |
| --- | --- | --- |

## Казімер Сваяк і моладзь.

*(У 5-ыя ўгодкі сьмерці паэты).*

6 траўня сёл. г. мінула 5 гадоў ад сьмерці беларускага паэта Каз. Сваяка. Невялічкі разьмер „Шляху Моладзі“ аж дагэтуль не дазваляў нам ушанаваць памяці Яго хоць кароценькім успамінам. Робім гэта толькі цяпер, бо лепш позна — як ніколі, дый асоба Сваяка варта, каб памяць аб ім у беларускай моладзі бязсьледна ня згінула.

Радзіўся Казімер Сваяк (Кс. Канстанты Стэповіч) 19.II. 1890 г. у вёсцы Барані, Сьвянцянскага пав. Скончыўшы меставую школу ў Сьвянцянах у 1905 г., у 1907 г. К. С. паступіў у Віленскую Р.-К. Духоўную Сэмінарыю.

Тры гады цяжкай працы ў Сэмінарыі да таго надламалі яго здароўе, што ён мусіў выяжджаць на лекі ў Закапанае; у Сваяка аказаліся ў сільнай ступені сухоты.

У гэтым-жа часе пачаў Сваяк прабаваць свае літэратурныя сілы. У 1913 г. аддаў ён у рэд. газэты „Biełarus“, што выходзіў у Вільні, першы свой верш „Прад Богам“, які ў № 28 гэтай газэты і быў надрукаваны.

Пасьвячаны на ксяндза ў 1915 г., Сваяк працаваў у Камаях, Клюшчанах, у Карыціне, Буйвідзах і ў Засьвіры, пераплятаючы сваю пастырскую працу выездамі на лекі ў тое-ж Закапанае — сталіцу сухотнікаў, а так-жа працай на ніве беларускай літэратуры. Урэшце ў Літоўскай Клініцы ў Вільні 6.V. 1926 г. К. С. расстаўся з гэтым сьветам і быў пахаваны на віленскіх могілках „Rosy“.

Паміма цяжкой сваей хваробы пісаў Сваяк даволі многа. З твораў яго вышлі друкам наступныя: 1. „Голас душы“ — малітаўнік для беларусаў-каталікоў, 2. „Чарку дай, браце“ — невялічкая аповесьць вершам, 3. „Янка Канцавы“ — сцэнічная драма з вясковага жыцьця, 4. „Мая Ліра“ — зборнік вершаў, 5. „Алькаголь“ — брашура аб шкоднасьці гарэлкі, 6. „Купальле“ — фантастычны абразок на аснове беларускай мітолёгіі. Многія вершы, творы поэтыцкія прозай, стацьці на тэмы беларускай культуры, рэлігіі і г. д., друкаваныя ў „Biełarusie“, „Bieł. Krynicy“, у календарох і інш.

Нямала ёсьць так-жа Сваяковых твораў, якія дагэтуль не дачакалі яшчэ свайго выдаўца і ляжаць у рукапісах.

Да гэткіх належаць: 1. „Дзея маей мысьлі“ — дняўнік Сваяка, у якім запісаны часта глыбокія разважаньні на розныя жыцьцёвыя тэмы, 2. Аб рэлігійнай уніі на Беларусі, 3. З дыскусіі з п. Банцэр, папольску, 4. Вершы, філёзофічна-рэлігійныя разважаньні, праекты, спробы вершаў і інш.

Збольшага характэрызуючы творы К. Сваяка, між іншым трэба адзначыць іх адносіны да моладзі. Вось-жа моладзь наша на сваім самаўзгадаваўчым шляху можа знайсьці там шмат чаго ідэйнага і дужа карыснага.

Творы Сваяка прадусім адзначаюцца сьмеласьцяй думкі. У творчым натхненьні Сваяк думкай шыбае аж на самыя вяршыны народных, грамадзкіх і агульна-людзкіх ідэалаў, зьбліжаючы іх да жыцьця і прыбіраючы ў стройныя формы мастацтва.

Творы Сваяка адзначаюцца так-жа шуканьнем сынтэзы, шуканьнем цэласьці рожнародных, расьцярушаных ідэалаў. Сваяк усьцяж імкнецца да таго, каб усё тое, што чалавеку накідаецца ў форме праўды, дабра і красы зьвесьці да цэласьці, асьвяціць сьвятлом вышэйшым, даць пэўнае і непарушнае абаснаваньне.

Шукаючы-ж суцэльнасьці ідэалаў і іх разумнага значэньня, Сваяк гэта ўсё сапраўды знаходзіць у хрысьціянскай філёзофіі. Творы Сваяка сапраўды адзначаюцца суцэльным сьветаглядам Яго, апёртым на асновах хрысьціянства.

А сьмеласьць думкі ў шуканьні ідэалаў, вытрывалае шуканьне суцэльнасьці ідэалаў і іх агульнага значэньня, асьвятленьне людзкіх сьцежак ідэовых і практычных ідэй вышэйшым, найагульнейшым сьвятлом хрысьціянства — гэта сапраўды прыгожы ўзор для ўсіх імкненьняў моладзі, гэта сапраўды вялікая ўзгадаваўчая для яе сіла!...

Але Сваяк блізкі для моладзі ня толькі сваім творствам, блізкі ён да яе так-жа і беспасрэднай сваей працай.

Будучы на беларускіх парафіях, Сваяк заўсёды вёў беларускую працу сярод моладзі. Так напр. у Клюшчах Сваяк злучыў моладзь у асобную арганізацыю пад назвам „Хаўрус Сваякоў“ з адумысловым для яе статутам. Арганізацыя гэта мела свой сталы хор, ладзіла беларускія лекцыі, прадстаўленьні, мела бібліятэку і агулам вяла шырокую народную беларускую працу сярод моладзі пад умелым і чуткім кіраўніцтвам Сваяка. Працу гэту пясьняр наш вёў абліва ў 1915 і 1916 г. Як цэнныя памяткі па гэтай працы засталіся згарманізаваныя беларускія песьні і хроніка дзейнасьці арганізацыі.

Урэшце з 1921 г. у Сваяковых паперах знаходзім гэткія 10 запаведзяў беларускага юнака: „1. Гонару беларускага юнака сьмела можна верыць, 2. Бога і Айчыну ён шануе набожна. 3. Быць услужным — абавязак юнака. 4.

Беларускі юнак да кожнага ветлівы і ў дзеле мастацкі. 5. Юнак прыяцель і друг свайго народу. 6. Ён любіць прыроду. 7. Паслушны старшым, адважны. 8. Заўсёды цьвярозы, заўсёды вясёлы. 9. Сабе ён суровы, другім спагадны, асабліва бедным. 10. Ён чысты ў думках, а ў мове ашчадны".

Вось гэтымі думкамі і весткамі і хацеў я падзяліцца з нашай моладзяй у 5-ыя ўгодкі сьмерці беларускага паэта-мысьліцеля і дзеяча Казімера Сваяка.

**А. Сакалінскі.**

# Не „шавецтва", але абавязак!

*(З прычыны пачатку школьнага году).*

Усе мы адчуваем сягоньняшняе гаспадарчае ліхалецьце, г. зв. крызыс, але ня ўсе здаемо сабе добра справу з таго, што было прычынай гэтага крызысу і што яго падтрымлівае ў нас дагэтуль. Аб усім гэтым, а так-жа аб заданьнях нашае моладзі ў змаганьні з сучасным і будучым крызысам, скажам тут пару слоў.

Сучасны крызыз мае шмат і шмат прычын. Адны з іх маюць характар сусьветны, нпр. пасьляваеннаяператасоўка сіл і граніц, надпрадукцыя, несарганізаваны рынак збыту, а другія — больш-менш мясцовы. Паміж гэтымі апошнімі, беларускую маладзь абходзячымі, прычынамі ёсьць **аднабокасьць нашага нацыянальна-адраджэнскага ўзгадаваньня**. Прыгледзьмося да гэтага бліжэй.

Трывалкі поступ цэлай людзкасьці і паасобных народаў апірацца мусіць роўнай мерай на стаўпох веды як духовай, так і матэр'яльнай. Ня бачымо гэтага ў нас Беларусаў. За ўсю апошнюю чверць стагодзьдзя мы шмат уламжылі цэннасьцяў у скарбніцу веды духовай, але роўна нічога не зрабілі ў галіне гаспадарчай; мы быццам забыліся аб дваістасьці людзкой натуры: духовай і матэр'яльнай. Гэткая пастаноўка справы магла-б можа выйсьці нам бяскарна ў часы спакойныя, нпр. перад вайной, але не магло і ня можа нам гэта „выйсьці на здароў'е" сягоньня, калі ўвесь сьвет, раскалыханы сусьветнай вайной, ня можа знайсьці йшчэ сталага пункту апоры. Сягоньня, як ніколі дагэтуль, **здольных пры жыцьці ўтрымацца толькі тыя народы, якія, побач з культурнай духовай, рупяцца і аб культуры матэр'яльнай.**

Не сакрэт сягоньня ўсім, як далёка ад гэтага ідэалу беларускае грамадзянства наагул і моладзь — асабліва. Мала таго, што мы ў гаспадарчым кірунку нічога ня робім, мы часта нават стыдаемся прызнацца да патрэбы та-

кой работы. Мова тут перадусім **аб моладзі выбіраючай сабе кірунак студыяў**: аднабокасьць настаўленьня сярэдняй школы прыводзіць да таго, што ейныя абсольвэнты глядзяць на вышэйшыя тэхнічныя студыі, як на нягоднае сябе „шавецтва". І адначасна з тым, калі ўласная моладзь бавіцца ў небясьпечных „нэоплятонаў" і псэўдо-„гамлетаў", чужыя людзі бяскарна выкрыўляюць наш гаспадарчы арганізм, нагінаючы яго сілком у чужыя ўродлівыя формы. Яшчэ малы мамэнт і можа так стацца, што беларуская інтэлігенцыя непатрапіўшая, міма ўсей сваей красамоўнасьці, навязаць контакту з сваім-жа гаспадарчым жыцьцём, акажыцца няжыцьцяздольным балястам і будзе змушанай адпасьці. Ня трэба быць яснавідцам, каб убачыць, што гэта небясьпека пачынае ўжо прымаць сусём рэальныя формы: наша вёска асабліва жыве сваім асобным гаспадарчым жыцьцём, а інтэлігенцыя, замест быць праваднікам, ад беспрацоўя прымірае часта з голаду, **бо страціўшы зразуменьне патрэбы дня, няздольна ўхапіцца за пульс жыцьця.**

Атрымоўвуецца зачараванае кола: і ёсьць свая інтэлігенцыя і няма яе; ё с ь ц ь, бо на кожным кроку можна яе спаткаць — і н я м а, бо ў нашым гаспадарчым жыцьці яна амаль ня прымае ніякага ўчасьця. Старшая генэрацыя ня можа прывыкнуць да новых абставін, а малодшая, узгадаваная у старых традыцыях, ня здолела йшчэ пературавіць працэсу зрэвалюцыянізаваньня свайго сьветагляду, апіраючагася дагэтуль ў першую чаргу на клямку ўрадоўца і няздольнаа вышуківаць і ствараць сабе ўласны варштат працы. І ў гэтым якраз наша трагедыя.

„Старога і гарбатага — кажуць — лапата толькі выпрастуе", але з моладзьдзю час яшчэ пакіраваць, куды толькі трэба. А патрэбы гэтыя мусяць быць абаснавыя перадусім на натуральным варштаце працы нашага сялянства, на земляробстве. **Падняць тэхніку вырабу ў самым земляробстве ды сарганізаваць рынак збыту для ягоных прадуктаў,** вось першае з першых заданьняў нашае маладое інтэлігенцыі. На гэтым сэктары нашага народнага жыцьця безрабоцьця быць ня можа. Патрэбны на гэта толькі грунтоўныя фаховыя студыі як самага земляробскага вырабу (агро-тэхнічныя), так і збыту ягоных прадуктаў (гандлёва-коопэратыўныя). Ськіраваньне ўвагі нашай моладзі на гэты кірунак студыяў ёсьць праявай не „шавецтва", але рэальна-жыцьцёвага змыслу: **гаспадарчым жыцьцём нашага краю, у ягоных собскіх інтэнцыях, зможа пакіраваць толькі свая собская, адпаведна выхоленая інтэлігенцыя.**

Гэткая інтэлігенцыя нам сяньня перадусім патрэбна!

**В. В.**

# Крызыс і коопэрацыя.

У сучасны мамэнт агульнага эканамічнага крызысу, вучоныя эканамісты і палітыкі усялякімі спосабамі стараюцца знайсьці выхад з гэтага цяжкога палажэньня. Шукаюць яны лякарства для направы хворага сучаснага арганізму капіталістычнай гаспадаркі. Аднак не находзяць яго. На сьвеце далей пануе несправядлівасьць,бяда і няроўнасьць.

Апошнім часам багачы — капіталісты, маючы вялікія запасы тавараў, а ня маючы на іх рынку збыту, каб утрымаць цану, нішчасьць свае тавары.

І так у багатай Амэрыцы пякарня „Cleveland" спаліла 18.000 баханкаў хлеба ў той час, калі насупроць яе таўпа галодных людзей прыходзіла ў дабрачынную кухню і стаяла ў чарзе, просячы поліўкі. У той-жа Амэрыцы багатыры нішчаць і паляць каву, у Аргентыне паляць кукурузу, у Манджурыі і Японіі высыпаюць у мора рыж. Падобных выпадкаў ёсьць яшчэ вельмі многа.

Гэта робяць тады, калі бедныя людзі ходзяць без работы галодныя і ня маюць у што адзецца.

Вось-жа ў гэты мамэнт многа хто з эканамістаў, шукаючы выхаду з тупіка, зварочвае ўвагу на коопэрацыю, як на справядлівую, выгадную, дэмакратычную сыстэму гаспадараваньня, якая можа палепшыць агульнае гаспадарчае палажэньне.

І сапраўды — коопэрацыя гэта дарога, да направы.

Коопэрацыя гэта ёсьць гаспадарчая сыстэма, апёртая на людзях пераважна бедных, узаемна сабе памагаючых у жыцьці. Коопэрацыя такім чынам творыць новую форму грамадзкае гаспадаркі, дзе галоўную роль іграе ня зыск, а агульнае грамадзкае дабро.

Коопэрацыя дзеліцца на **спажывецкую, вытварчую і крэдытовую.**

Спажывецкая коопэратыва паўстала ў палове XIX веку ў Англіі. Мэта яе: зьнішчыць перадусім пасрэднікаў у гандлі шляхам арганізацыі спажывецкіх коопэратыўных крамаў, якія-б, набываючы тавары беспасрэдна ад вытворшчыка, прадавалі іх па танейшай цане ад цаны перакупшчыка і да таго ў заручанай якасьці.

Вытворчая коопэрацыя мястовая— рамесьльнікоў, будаўнічых, работнікаў — паўстала ў Францыі і заданьнем яе ёсьць арганізаваць свае ўласныя вытворчыя коопэратывы рўмесьляныя, будаўнічыя і ім падобныя. Такім чынам сябры коопэратывы працуюць у свэіх уласных варштатах і вызваляюцца ад вызыску падрадчыкаў і фабрыкантаў.

Копэрацыя вытворчая земляробская паўстала ў Даніі; заданьне яе — лучыць у коопэратывы вытворцаў збожжа, гадаўцоў жывёліны, пчаляроў, агароднікаў, садоўнікаў і ім падобных, дзеля арганізацыі выробу прадажы сваіх прадуктаў, а так-жа і супольнае працы на гаспадарках.

Крэдытовая коопэрацыя паўстала ў Нямеччыне; заданьнем яе — шырыць паміж сваіх сяброў зразуменьне патрэбы дробнай ашчаднасьці, тварыць ашчаднасьцёвыя коопэратыўныя інстытуцыі, ад сяброў іх зьбіраць ашчаднасьці (разумеецца—зваротныя) і з гэтых капіталаў выдаваць для тых-жа сяброў, за аплатай малых працэнтаў, пазыкі. Такім спосабам сябры крэдытовых коопэратываў увальняюцца ад ліхвярства.

Увесь культурны сьвет вельмі добра разумее, што прыносе коопэрацыя і дзеля гэтага, пачынаючы ад капіталістычных дзяржаў, а кончыўшы на С.С.Р.Р. коопэрацыя ўсюды пашыраецца, мае пасьпех і шырока йдзе наперад.

У нас, у Заходняй Беларусі, гэтага няма — у нас коопэрацыя вельмі слаба разьвіваецца, бо народ наш яе не разумее. Коопэрацыяй на нашых землях кіруюць людзі чужыя, з Польшчы, ня знаючыя ані краю, ані народу і ня маючыя ў народзе даверу. Пры тым коопэрацыя вымагае ахвярнае, вытрывалае працы, а ня пустых слоў і казёншчыны, як гэта у нас бывае.

Нам Беларусам, народу не багатаму, коопэрацыя вельмі патрэбна і дзеля гэтага трэба яе пазнаць, асабліва моладзі і ўводзіць яе ў жыцьцё ўсімі магчымымі спосабамі.

Я. Н.

## З газэт.

### „Абаронца“ беларускага школьніцтва.

У сувязі з ліквідацыяй польскімі школьнымі уладамі Беларускай Гімназіі ў Клецку, на бачынах віленскіх беларускіх і польскіх газэт паявіліся стацьці аб беларускім школьніцтве. Вось-жа у № 2 „Голасу Праўды“, якойрэдактарам і выдаўдом зьяўляецца бышы грамадавец, аянпер найшчырэйшы палянафіл Ф. Акінчыц, таксама надрукавана вялікая стацьця ў справе беларускага школьніцтва, але аўтар яе стаіць не ў абароне школьніцтва, а ў абароне польскіх уладаў, якія быццам змушаны былі зьліквідаваць Клецкую гімназію. (З.)



# Літэратурны аддзел.

* * *

Як прамень вясьнянага сонца,
Жыцьцё што прыносе з сабой
Так ясны, і ветлы бясконца,
Парывы душы маладой.
  Хоць шлях наш цярністы. жыцьцёвы,
  Пайдзём мы бяз енку ўпярод.
  Ня ўстрашуць нас ворагаў змовы —
  Нас кліча працоўны народ.
Сарвём мы прымусу аковы,
Ня трэ' нам апекі чужой!
Жыцьця мы збудуем лад новы
На сьлёзнай зямельцы сваёй.
  Цьма ночы ў нашым народзе,
  Ня будзе заўсёды трываць —
  Бо мы, як адзін, усе ў згодзе
  Кліч праўды пайдзём пашыраць...

**Вера Альхімавічанка.**

## НЕ МАГУ ЗАСНУЦЬ...

Не магу заснуць васеньняю парою,
Як надойдзе ночка, цемната.
Я і сам ня знаю, што тады са мною,
Сьвет тугой спавіты, у сэрцы сумната...
Наплываюць думы шэрыя, страшныя,
Як пажоўклы клён за вакном шумяць—
Быццам тыя сілы краю майго злыя
Пачалі над намі хаўтуры спраўляць.
У той момант я ляцеў-бы супроць сілы,
Я ляцеў-бы на змаганьне, поле барацьбы
Ня страшна пакута, ня страшна магіла,
Толькі з сэрца каб пазбыцца вечнай жальбы...

**С. Жалюбчык.**

## ПРЫЗНАНЬНЕ.
(з нямецкага)

О не, за хараство мяне ты не кахай;
І не кахай мяне зато', што я багаты —
За хараство кахай прыгожы месяц май,
За багацце — брыльянты, дукаты.
І не кахай за моладасьць маю мяне;
Кахай вясну, што з кождым годам маладая.
Мяне кахай, хоць моладасьць мая міне,
Зато', што сэрцам я цябе кахаю.

**С. Вялькоўшчык.**

## НАВАЛЬНІЦА.

Штосьці дзікае,
Страшна—хмурнае,
Штосьці грознае,
Няпрытульнае
Заняло сабой
Сінь паднебную,
Устрывожыла
Душу бедную.
Раскацілася
Гулкім рогатам,
Разгулялася
Дзікім волатам,
Да зямлі гнучы
Дрэвы хілыя,
Абрываючы,
Цьвяткі мілыя...
Зь ветрам гоніць іх
У гразь стаптаную,
Ганьбіць долю іх
Змарнаваную...
Дзе-ж ты скрылася,
Сонца яснае?
Дзе-ж падзелася
Доля шчасная?

**Юльян Сяргіевіч.**

## СЬЦІХЛА ПЕСЬНЯ...

У куточку валаконцы
Павучок сную —
А камарык на ваконцы
Нешпары пяе...

Днём пахмурным
Сум закраўся —
У душу забрыў
І імглою разаслаўся
Паміж сонных ніў.

Сьціхла песьня...

У жытнім полі
Больш ня бачу жней —
Адна женейка... Ой, ніколі
Не забыць мне ей!

Мне ня бачыць
Сініх вочак —
Гэткіх, як яе...

. . . . . . . . . . . . .

На ваконцы камарочак
„Requiem“ пяе.

**Л. С.**

## ХВІЛІНЫ СУМУ.

Часамі на душу мне смутак зыходзіць,
Хоць сьмех і вясёласьць пануе кругом,
І думы панурыя роем прыходзяць,
Кладуцца смугою на сэрцы маём.
Такія пачуцьці мне душу хвалююць
Ў той час, калі сэрца жаданьняў паўно,
Калі ў ём імкненьня святыя бушуюць,—
Спагаду аднак не знаходзіць яно.
У той час так бяссільным сябе адчуваеш,—
Што хочацца згінуць, — ня шкода жыцьця,
Калі ты спагаду навокал ня маеш
І сэнсу ня можаш знайсьці ты жыцьця.
Так цяжкіх хвілінаў той толькі ня мае,
Спавіта душа ў каго йшчэ туманом,
Бяз толку жыцьцё хто сваё спаганяе,
Хто толькі жыве адным сёньнешнім днём.

**С. Гаротны.**

# З мінулых дзён.

(Успаміны). 4)

## IV.

Нядоўга прышлося ў гэтым дварэ пажыць, толькі, здаецца, нейкіх 3-4 месяцы. Вось тут, калі ўсё было ўпарадкавана і троху прыгледжана з кватэрай, бацькі і дзядзькі мусілі йсьці да працы. Была тады зусім глухая восень, але ня гледзячы на тое яшчэ ў гэтым дварэ уся амаль была някопана бульба, буракі, капуста і другія гародніны.

Неяк на трэці дзень пасьля прыезду прышлі Немцы да чваракоў і загадалі, каб усе мужчыны бралі коні і ялі да вялікіх гумнаў малаціць збожжа, а ўсе кабеты — на поле капаць бульбу, ня гледзячы на тое, што ўжо была ўмерзшая зямля. Усе пайшлі, дома асталіся толькі малыя дзеці і зусім старэнькія кабеткі. За працу Немцы нічога не плацілі—давалі толькі ў месяц на душу адзін шуфаль жыта і некалькі пудоў бульбы, а для коней — вязку саломы, зьмешанай разам з сенам; а загад мусілі выпаўняць як сьлед. Ну, што-ж зробіш чалавеча, „вайна,“ мусіш кожнага салдата слухаць — не паслухаеш — нагайка засьвішча па сьпіне тваей!...

Вось так з-дня на дзень кідалісь і чакалі чагось лепшага, а мо‘ і яшчэ горшага...

Быў дужа цікавы і сумны ў гэтым дварэ адзін прыпадак: малыя дзеці гулялі на дварэ і знайшлі нейкую люлячку. Прынёсшы дамоў у бровар, гдзе жыло нейкіх каля сарака асоб, яны пачалі яе ножыкам калупаць і пароць, аж раптам гэта люлячка разарвалася і пакалечыла некалькі асоб; пасьля гэтага ўсе бацькі ня выпускалі малых дзяцей на двор. Гэта была перасьцярога для дзяцей, а так-жа і для старэйшых, бо шмат аказвалася выпадкаў і з старэйшымі людзьмі, што праз гэту „люлячку“ трацілі здароўе, а нават жыцьцё.

Двор гэты быў распаложаны ў даволі прыгожым мейсцы. За дваром цякла невялічкая рэчка, убраная ў прыгожыя па абодвых бакох зялёныя дрэўцы. Вадзічка дужа чысьценькая і быстрая бегла ў вялікі стаў, а з ставу йзноў гдзесь ў няведамую даль... Каля ставу стаяў вялікі млын, каторы цэлы дзень і ноч усё лапатаў і лапатаў — ён малоў для людзей збожжа на хлеб. Часта наягджала вельмі многа фурманак, так што станавілі вазы ў калею, ці йнакш кажучы—у доўгі шнюр. У млыне мужчыны пасядаўшы гутарылі між сабою пра сваё жыцьцё, пра няшчасную і дакучлівую вайну, каторая так доўга цягнецца, а так-жа бядавалі па сваіх сынох, што былі забраныя на вайну, а найорш тое, ці прыдзецца ім вярнуцца да свайго роднэнька-

га кутка? Часам і крык раздаваўся: гэта заходзілі сваркі паміж мужчынамі; і за што, каб хто запытаў,—за няшчасную калейку, хто мае першы засыпаць. А тут Немец прывозіў і бяз калейкі засыпаў сваё збожжа ў кашы... Далей за гэтым млыном цягнулася вялікая і даволі шырокая дарога да мястэчка, а па бакох раскладаліся вялікія абшары дворных палёў і лугоў, па палёх былі раськінуты то там, то сям невялічкія бярэзьнічкі, або хваёвыя ляскі.

У сярэдзіне двара рос даволі вялікі маладзы сад, каля яго знаходзілася многа капцоў напоўненых бульбай. Немцы часта адкопвалі гэтыя капцы і напаўнялі або выбіралі з яго бульбу; для нас малых гэта была найвялікшая пацеха: як толькі Немец адкапае, дык тады набярэцца малых дзяцей і ідуць да капцоў; давай ў кішэні, або у хвартушкі браць што там было, а немец ганяецца за намі ды крычыць разнаітамі славамі. Вось так і праходзіла жыцьцё беднага выгнанага народу, каторы мусіць працаваць толькі за няшчасны кавалак хлеба і за бульбу.

Настала зіма. Сьнег пакрыў зямельку. На полі перарвалася праца. Цяпер кабеты маглі дома адпачыць і дагледзіць за дзяцьмі, каторыя праз увесь час былі паабдзіраўшыся лазячы па балоце. Толькі для мужчын ня было адпачынку, яны мусілі заўсёды працаваць, як восень, так і зіму.

Падыходзіла сьвята — каляды, трэба было штоколечы прыгатовіць сабе на сьвята, хоць якую скварку, а ў той час гэтага было цяжка дастаць. Вось мой бацька з дзядзькам паехалі ў адну вёску, якая знаходзілася недалёка ад двара — каб купіць украдкам якога кабанчыка на сьвята.

Вярнуўшыся дамоў апоўначы, яны прывязьлі з сабою даволі вялікага кабана. Закалолі, абсмалілі ў гэту самую ноч, каб не маглі відзець Немцы. Раніцаю ўжо маглі есьці даўно нявідзеную сьвежанінку. Дзень гэты выдаваўся для нас малых вялікім сьвятам і быў радасным і ўспамінным аж да сягоньняшняга дня.

Ня помню добра, ці прышлося дачакаць каляд у гэтых чваракох, ці не, бо пасьля гэтага вясёлага дня скора прышлося зьбірацца ў дарогу. На колькі памятую, здаецца, што сьвята каляд спаткала ўсіх бежанцаў у вялікай дарозе.

Як толькі пачаў разлягацца голас Немца „сабірайся! сабірайся!“ раздаўся крык, шум, плач усіх людцоў. Вось ізноў выягджай ў дарогу, каторая так збрыдла, як горкі перац. Трэба слухаць „пана,“ такі лёс выпаў табе народзе! Давай ізноў пакавацца. Пазьбіраўшы свае лахманкі і спакаваўшыся на вазы, зварухнуўся ізноў вялікі абоз у няведамую даль...

Цяпер-жа ехаць было зусім немагчыма, дзеля таго, што шмат было навеяна сьнегу, — саней ня было, а ў калёсах, дык зусім было цяжка. Мучыўся чалавек, а яшчэ больш — жывёліна, каторая цягнула вазы.

Але найгоршая бяда спаткала няшчасных кабет, каторыя мелі малых дзетак, якіх трэба было ў такім марозе накарміць і напаіць, падчас калі старому чалавеку носу ня можна было выткнуць з кажуха, ці з якога бурносу. Але што-ж зробіш, трэба цярпець, такая, відаць, Божая воля.

Цяпер ужо малая надзея была на жыцьцё, усяго думалася: дарога няведамая, прадуктаў у запасе няма, а есьці трэба. А скуль возьмеш, з пад сьнегу не дастанеш?

Адна пацеха была — была гэта абяцанка павадыроў абозу — казалі, што будзе вам і есьці і піць, дык толькі на гэта і надзеяліся.

Калі мінулі знаёмыя мясцы, разлажыліся перад намі вялікія, бясканечныя, белыя паля, толькі гдзе-негдзе стаяў шэра-белы сасоньнік і скрыгатаў ад цяжару сьнегу, які наваліўся на яго, як быццам хацеў адабраць ад яго жыцьцё... Неба было пакрытае хмарамі, відаць яно хацела падсыпаць сьвежага сьняжку, каб было мякчэй ісьці для беднага народу. Вецер быў заходні і дзьмуў якраз у твар падарожнікаў...

**Янка Ваўштолскі.**

---

## *АД РЭДАКЦЫІ.*

*Ад гэтага нумару перарываем друкаваньне адказаў на анкету «Якімі літарамі маем друкаваць «Шлях Моладзі», дзеля таго, што далейшыя адказы нічога новага да справы ня ўносяць, а толькі паўтараецца тое самае, што было ўжо сказана, дык друкаваньне гэтага далей было-б толькі забіраньнем ў часопісі дарагога нам так месца.*

*Аб аканчальным вырашэньні справы, якімі літарамі друкаваць трэба «Шлях Моладзі», будзе ў хуткім часе вырашана.*

*РЭДАКЦЫЯ.*

# Лісты

## КАСЬЦЁЛ І П'ЯНСТВА.

**Кімяны**, Віл.-Троцкага пав. Вёска наша належыць да Цудзенішскай парафіі. Вось-жа ў Цудзенішках маемо мы невялікі, але прыгожы касьцёлік, які бадай заўсёды бывае пусты. Людзі нашы, а пераважна моладзь, чамусьці перастаюць хадзіць у касьцёл. Прычыны гэтага сумнага зьявішча трудна знайсьці, аднак бязумоўна аграмадную падрыўную роль іграе тут тое, што наш ксёндз ня хоча зусім датасавацца да народу. Паміма таго, што ўсе, за выняткам пару абшарнікаў, урадоўцаў і паліцыянтаў, парафіяне ёсьць Беларусы і гавораць выключна пабеларуску, а ксёндз, хоць сам паходзіць з Беларусаў —„Паляк"і гаворыць да іх выключна папольску, а гэта не для каждага зразумела.

Яшчэ мушу зазначыць, што моладзь наша, калі прыходзе да касьцёла, то нажаль пераважна дзеля таго, каб пабачыцца з знаёмымі, пафліртаваць перад касьцёлам, у цукеркі паіграць, а то і напіцца гарэліцы ды пабіцца. Раней то гэта рабілася далей ад касьцёла, на рынку, пад час торгаў, а цяпер ужо прыбліжаецца да касьцёла.

Улады касьцельныя павінны ўзяць гэтае сумнае зьявішча пад увагу і прыслаць ксяндза такога, які-б у роднай зразумелай для народу мове беларускай патрафіў прагаварыць да народу і сьціраваць яго на добрую дарогу, а моладзь — каб зацікавіў роднай культурай, гісторыяй і літэратурай беларускай ды каб уцягнуў да грамадзкае працы.

Ведаючы аднак кірунак сучаснае касьцельнае ўлады, трудна спадзявацца, каб яна гэтак паступіла. Польскім касьцельным уладам на нашых землях здаецца ня надта гэтая справа ляжыць на душы, дзеля гэтага мы, моладзь, павінны самі зразумець, што так жыць далей ня можна, праз бойкі і п'янства мы трацім свае сілы маладыя, патрэбныя нам так да жыцьця, патрэбныя дзеля таго, „каб людзьмі звацца". — Дык кіньма піць гарэлку і біцца, возьмем лепш віпішам і прачытаем беларускую газэту і кніжку — гэта дасьць нам карысьць.

Шчыры прыяцель.

## ПОЛЬСКІЯ КСЯНДЗЫ ВЫНАРАДАЎЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ.

**Сакольшчына**. У нас, на заходніх рубяжох Беларусі, паміма ўсялякіх перашкодаў, сьведамасьць сярод моладзі

хоць вельмі памалу, але расьце. Праваслаўная моладзь нават цікавіцца беларускай справай. Горш троха з каталіцкай моладзьдзю, між якою польскія ксяндзы, пад пакрыўкай рэлігіі, арганізуюць „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej," а таксама і сваімі казаньнямі ў касьцеле праводзяць чыста палянізацыйную работу. Нічога аднак і гэта не паможа, прыдзе той час, калі нашы сяляне праваслайныя і каталікі згодна і сьмела заявяць, што яны Беларусы і стануць у абароне сваіх правоў.

Праўда возьме верх!

Праваслаўны чытач „Ш. М."

### ПАЗНАЛІСЯ.

**Углы-Маркоўнік**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав. Польскія вучыцялі, бачачы, што наша моладзь цікавіцца беларускім рухам, усялякімі сіламі стараюцца адцягнуць яе ад усяго, што толькі мае лучнасьць з беларускасьцяй і прышпіліць да польскасьці. З гэтай мэтай ў нас вучыцелька сарганізавала „Koło Młodzieży Polskiej." Моладзь аднак пазнала чым гэта пахне і кола гэта ўжо развалілася. У нас нават магла-б шырока разьвівацца беларуская адраджэнская праца, але няма толькі павадыра, які-б мог кіраваць працай, а так-жа няма і літэратуры. П. К.

# Канфіската „Шляху Моладзі" № 8.

**31 жніўня 1931 г. па загаду Гарадзкога Стараста на м. Вільню сканфіскаваны „Шлях Моладзі № 8 за м-ц жнівень за зьмяшчэньне карэспандэнцыі з Маладэчаншчыны „Да працы." Гэты нумар „Шляху Моладзі" выдаём за м-ц верасень, я наступны-ж № 10 выйдзе у м-цы кастрычніку.**

# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

Не даюць дазволу на лекцыі. Апошнім часам польскія адміністрацыйныя ўлады не далі дазволу на лекцыі для наступных гурткоў Бел. Інст. Гасп. і Культуры: Ляхавіцкага, (Баранавіцкага пав.), Шутаўскага (Ашмянскі пав.), і Жодзішнага (Вялейскага пав.)

Лекцыі меўся чытаць віцэ-старшыня Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры інж. Адольф Клімовіч.—Вось якая свабода культурнае працы.

Пасол Фабіян Ярэміч, 25 жніўня выехаў ў Жэнэву на кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў, як прадстаўнік ад Беларусаў. Кангрэс адбудзецца 29, 30 і 31 жніўня.

Сьвяшчэньніку Каўшу, Беларусу, Віленскія Елархіяльныя ўлады вярнулі адабраныя раней правы выкладаць Закон Божы ў школах і мець багаслужэньне у царкве.

Памёр, 25.VII. с. г. ў м. Віяна, Бельскага пав. ведамы беларускі дзеяч Ксёндз Міхал Пятроўскі, які за працу на беларускай адраджэнскай ніве, быў вязьнены бальшавіцкімі і польскімі ўладамі.

Набажэнства для Беларусоў-каталікоў у касьцеле сьв. Мікалая пачынаецца ў новым школьным годзе дня 6 верасьня а 10-тай гадз. рана.

Суд над б. пасламі: Дварчанінам, Гаўрылікам, Крынчыкам і Валынцам. Дня 18 г. м. адбыўся ў Вільні суд над б. пасламі „Змаганьня“ за дэманстрацыю, калі яны называлі суд „фашыстоўскім судом,“ пасьля засуду іх дня 21.I. с. г. на 8 гадоў катаргі. За гэтую деманстрацыю Віл. Акр. Суд засудзіў кожнага з іх на кару па 18 месяцаў вастрогу.

**З Радавай Беларусі.** Ходзяць чуткі, што бальшавікі ўзноў арыштавалі больш 20-ці чалавек культурных беларускіх працаўнікоў.

**Беларусы у Латвіі.** Беларускі Аддзел пры міністэрстве Асьветы ў Латвіі атрымаў 10.000 літаў, на дапамогу беларускаму школьніцтву ў Латвіі.

— Т-ва Беларускай Моладзі ў Латвіі атрымала ад ураду 1.100 латаў дапамогі.

- Выбарная праца у Сойм у Латвіі ўжо пачалася. Беларусы на вёсцы пачалі ўжо так-жа агітацыю.

### З Літоўскага жыцьця.

Закрыцьцё літоўскіх школаў. Віленскія Школьныя ўлады закрыві 8 літоўскіх пачатковых школ, якія вяло літоўскае культурна-прасьветнае таварыства „Rytas." Тыя-ж самыя улады ня выдалі дазволу на адчыненьне новых 16 школаў.

Няма безработных. У Літве, як падаюць газэты, няма зусім безработных і сучасны эканамічны крызыс пакульшто ня прымае там такіх вялікіх разьмераў, як у іншых дзяржавах.

### З Украінскага жыцьця.

Украінцы на кангрэсе Нацыянальных Меншасьцяў ў Жэнэве. Ад Украінцаў на кангрэс Нац. Меншасьцяў у Жэнэву выехалі пасланка Рудніцкая, пасол Олесьніцкі і другія.

Звольнілі. Польскія ўлады звольнілі з вастрогу за каўцыю 500 зл. б. украінскага пасла Лішчынскага.

Англійскія паслы у Украінцаў. У гэтым месяцы ў Львоў да Украінцаў прыяжджала двух англійскіх паслоў з Партыі Працы, якія цікавіліся украінскай справай пад Польшчай.

### З Польшчы.

Памёр польскі міністар асьветы Чэрвінскі. Яго мейсца заняў віцэ-старшыня клюбу Б. Б. пасол Януш Енджэевіч.

— У 1931 г. у Польшчы збанкрутавала ўжо 824 розных гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў.

— Рэдукцыя, у сувязі з ашчаднасьцяй, пашыраецца.

— Безробоціцца прыймае аграмадныя разьмеры. Урад быццам пакладае ўсе стараньні, каб яе устрымаць, вынікаў аднак гэных стараньняў пакульшто ня відаць.

### З заграніцы.

— У С. С. Р. Р. па загаду Сталіна прыпыняецца далейшая калектывізацыя вёскі.

— У Англіі гаспадарчы крызыс прыняў вялізарныя разьмеры, лік безработных узрос да 2 мільёнаў 700 тысяч асоб. Дасюлешні Урад Мэк-Дональда, ў склад якога ўва-

хоцзілі толькі сябры „Партыі Працы,“ падаўся ў адстаўку. Новы ўрад сарганізаваў Мэк-Дональд, з той аднак розьніцай, што ў склад яго ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх трох англійскіх партыяў, г. зн. „Партыя Працы,“ Консэрватыстаў і Лібэралаў.

— У Жэнэве 1-га верасьня распачнецца чарговая васеньняя сэсія Лігі Народаў.

— Паміж С.С.Р.Р., Польшчай і Францыяй далей ідзе гутарка аб дагаворы узаемнага ненападаньня. Аб гутарках гэтых савецкія ўлады інфармуюць Нямеччыну.

— У Жэнэве 29 і 30 жніўня адбудзецца кангрэс нацыянальных меншасьцяў, у часе абрадаў якога мае быць паміж іншым разгледжаны праект утварэньня сталага бюра, якое разглядала-б скаргі нацыянальных меншасьця у Лігу Народаў, а нават і памагла-б выступаць са скаргамі перад Лігай Народаў тым нацыянальным меншасьцям, якія не маглі-б рабіць гэтага самастойна.

## Усячына.

Сьліўны сок — лякарства ад сьляпоты. У в. Місіншчына (Беніцкай вол., Маладэчанскага павету) маленькі хлопчык, сын Кастуся Чарнэцкага, гуляючы разьбіваў зялёную сьліўку, з якой пырснуў сок у сьляпое вока хлопчыка. Выціраючы вока ад грызьлівага соку хлопчыку раптам у воку пасьвятлела і неўзабаве стаў відзець нармальна, так як і другім здаровым вокам. Цікава адзначыць тое, што дактары, да якіх (у Маладэчна) вазіў бацька няшчаснага хлопчыка, ускалоўшага сабе вока, сьцьвярджалі нявылечальнасьць і радзілі толькі зафарбаваць зацягнуўшая бяльмом вока, каб прыняло натуральны від.

„Наўтілюс“, падводная лодка Вількінса, паўторна выехала да паўночнага полюса Апошнімі днямі разышліся трывожныя весткі, што паміма ўсялякіх стараньняў ніяк ня можна навязаць з ею кантакту па радыё. На лодцы „Наўтілюс“ ёсьць радыёвая стацыя.

Лік савецкіх газэт „Камуніст“ N 122 з 5.V.31 г. падае, што савецкіх газэт у 1927 годзе друкавалася 7.600.000 экз., у 1929 г. 12.000.000 экз., у 1930 г. 22.000.000 экз.

Паводка. У Кітаі выйшла з берагоў рака Янтскіянг, заліваючы цэлую правінцыю. Страты у людзях даходзяць да 150 тысяч асоб.

Будзем мець вострую зіму. Ведамы швэдзкі мэтэоролёг Бандстрэм пасьля навуковых досьледаў, даказвае, што збліжаючаяся зіма будзе вельмі вострай.

Скок з вышыні 6.800 мэтраў. Латвійскі лятун Пэтэрсон выскачыў з аэраплана з вышыні 6.800 мэтраў і шчасьліва асеў на зямлю.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

# Наша пошта.

Міколцы-круцёлцы. Вершы Вашы слабыя, „Шл. Моладзі" высылаем, дамагайцеся на пошце. Просім пісаць часьцей.

М М—ы. Вершаў Вашых аб Я. Купале — „Сьціснулі больш мне грудзі" і іншых мы не атрымалі. Сцэнічны твор і вершы просім прысылаць, калі падыдуць, дык надрукуем, аднак завначаем, што за зьмяшчаныя творы рэдакцыя нікому ня плаце.

Ул. Адамчуку. „Шлях Моладзі" высылаем і чакаем падпіскі. Можа Вы напісалі-б штонебудзь з жыцьця Вашае моладзі?

Сяляку Вінцуку. „Шл. Моладзі" высылаем і чакаем падпіскі, адрас Рэдакцыі украінскае часопісі „Вогні:" Lwów ul. Grodzickich 4-III.

Л. С. За прысланае і за добрыя словы шчыра дзякуем, адзін верш Ваш, як бачыце, друкуем, другі слабы, карэспандэнцыю надрукуем у наступным нумары, Просім пісаць на далей.

А. Д—ку. Твор Ваш „Замест мэтры паўтара" слабы і да друку не падойдзе, радзімо пісаць прозай.

Шпаку. Шчыра дзякуем за цэнную вестку і прысланыя матар'ялы, частка якіх ужо выкарыстана; просім пісаць на далей.

Пісьмо Ваша атрымалі мы з аднаго канца разрэзаным і ў ім знашлі карэспандэнцыю, вестку да ўсячыны і дзьве карткі з вершамі на якіх напісана два. Ці ўсё ў парадку?

Вількоўскаму. За ўвагі і прысланыя вершы, з якіх адзін друкуем, дзякуем.

Грошы атрымалі ад: Шыдлоўскага Леаніда 4 зл. Шчаснага Пётра, Дзяняніна Крупскага, Еўгенія Паляніна, В. Галавача па 2 зл., Сухадольскага Язэпа 1 зл, 50 гр., і Баўтрукевіча Кастантага 1 зл. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі" пасылаем.

# Жарты.

## ЗЖАЛІЛАСЯ.

Адзін валацуга ўлез у сад, які быў каля пышнага палацу, з тым, каб пажывіцца. Аж раптам бачыць паню таго палацу, якая ідзе проста да яго. Уцякаць няма як, бо зараз будзе гвалт і прагоне — дык валацуга надумаўся і пачаў нібы шчыпаць зубамі траву, якая была у гэтым месцы вельмі малая.

— Што ты робіш, чалавеча? — закрычала зьдзіўленая пані.

— Ах, які я галодны — адказвае валацуга — тры дні як ня меў нічога у роце...

Літасьцівай пані з жалю аж сьлёзы сталі ў вачах.

— Хадзі са мною, хадзі чалавеча, цябе паратую, сказала пані — там за палацам куды большая трава..

## МЯШЧУХІ НА ВЁСЦЫ.

Летам прыехаўшыя на правінцыю на летнішча мяставыя багатыры пабачылі пастуха, які паіў у рацэ каровы; адзін з іх і пытае пастуха:

— Чаго гэтыя каровы стаяць у вадзе?

Пастух-жа кажа: а гэта панок, каб малако ня ськісла!

# Пашырайце „Шлях Моладзі“.

Апошнім часам польскія газэты прыпусьцілі атаку на беларускую вёску. Яны высылаючы сваіх агентаў і усялякімі спосабамі старающа здабыць для сябе як найбольш падпішчыкаў. Апрача платных спэцыяльных агентаў рэдакцыі польскіх газэт маюць яшчэ сабе да помачы польскіх ксяндзоў, вучыцялёў і ўрадаўцаў, якія маючы магчымасьць спатканца з людзьмі цэлых ваколіц, старающа сярод іх здабыць ня толькі платных падпішчыкаў, але шукаюць і бясплатных чытачоў.

Мэта гэтае агітацыі ня толькі гандлёвая, але перадусім полёнізацыйная, каб пашырыць польскасьць на беларускай вёсцы.

Беларускія рэдакцыі дзеля цяжкіх палітычных варункаў рабіць гэтага ня могуць.

Беларуская інтэлігенцыя знаходзіцца на столькі ў цяжкім палажэньні, што ня мае магчымасьці шырэй заняцца гэтай справай.

Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“, выдаючы сваю часопісь, мае на мэце перадусім стаяць у абароне інтарэсаў беларускае моладзі, усьведамляць і ськіроўваць яе на шлях нацыянальна-беларускі, абзнаямляць яе з гісторыяй географіяй Беларусі, літэратурай і народным творствам беларускім, а так-жа дапамагаць у самаўзгадаваўчай працы, зьмяшчаючы з гэтай галіны стацьці.

„Шлях Моладзі“ выдаецца проста саматугам, для чыста культурнае мэты і дзеля таго падпіска на цэлы год каштуе ўсяго 2 зл. Апрача гэтага акуратвыя падпішчыкі „Шляху Моладзі“ кожны год атрымоўліваюць дадаткі.

Супрацаўнікі, г. зн. тыя ўсе якія пішуць стацьці, вершы, апавяданьні, карэспавдэнцыі і прысылаюць іх да друку ў Рэдакцыю, атрымліваюць часопісь бясплатна.

Паміма гэтага і з прычыны браку рэклямы яшчэ шмат ёсьць вёсак у Заходняй Беларусі, дзе беларуская моладзь нават ня ведае ня толькі што „Шлях Моладзі“ выходзе, але і агулам, што ёсьць беларускія газэты і кніжкі.

Вось-жа абавязкам кожнага сьведамага Беларуса ёсьць рэклямаваць беларускія газэты і заахвочываць народ выпісываць і чытаць іх.

Рэдакцыя „Шлях Моладзі“ шчыра просіц усіх нашых супрацоўнікаў і падпішчыкаў па меры магчымасьці здабываць новых падпішчыкаў на „Шлях Моладзі.“ Калі-ж Рэдакцыя „Шляху Моладзі“ будзе мець больш падпішчыкаў, дык і часопісь „Шлях Моладзі“ будзе выходзіць акуратней і ў большым фармаце. Апрача гэтага, хто здабудзе двух новых падпішчыкаў, якія аплацяць падпіску на цэлы год— атрымае, як прэмію, кніжыцу „Палітычныя і грамадзкія кірункі у мінуўшчыне і сучаснасьці.“

Рэдакцыйная Калегія „Шл. М.“